ТЕЛЕПРОГРАММА НА НЕДЕЛЮ

№ 97 (1660)

Субота, 31 мая 2003 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць —
5 разоў у тыдзень

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail : nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

### Надвор'е

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +23...+25, уначы — +13...+15; у Брэсце ўдзень — +24...+26, уначы — +14...+16; у Гродне ўдзень — +24...+26, уначы — +13...+15; у Віцебску ўдзень — +18...+20, уначы — +12...+14; у Гомелі ўдзень — +23...+25, уначы — +14...+16, у Магілёве ўдзень — +23...+25, уначы — +13...+15. Па ўсёй краіне захавецца сонечнае надвор'е, без ападкаў, толькі па Віцебскай вобласці магчымы дождж.

www.meteo.by



ПУЛЬС

## Інтэлігентаў хвалюе лёс ліцэя імя Якуба Коласа

Управа рады беларускай інтэлігенцыі выказала рашучы пратэст супраць прызначэння дырэктара Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа.

У звароце да ўлад і грамадскасці краіны паведамляецца, што "ў 1991 годзе здзейснілася мара пакаленняў беларускай інтэлігенцыі аб стварэнні навучальнай установы, якая магла б стаць калыскай нацыянальнага адраджэння. Дванаццаць год жыў ліцэй, у якім гучала цудоўная беларуская мова, дзейнічала сапраўднае вучнёўскае самакіраванне, існавалі адметныя традыцыі і святы, а выпускнікі атрымлівалі трывалыя веды і выходзілі ў жыццё з пачуццём гонару за нацыянальную гісторыю і культуру".

Уладзімір Колас.

У звароце гаворыцца, што пад кіраўніцтвам Уладзіміра Коласа ў ліцэі "склаўся прафесійны калектыў выкладчыкаў — патрыётаў Бацькаўшчыны, якія прысвяцілі свае жыццё выхаванню падрастаючага пакалення. Менавіта выкладчыкі разам з бацькамі вучняў і сябрамі ліцэя стварылі ў навучальнай установе атмасферу даверу, шчырых адносін, свабодалюбства і імкнення да ісціны. У ліцэі імкнуцца вучыцца тысячы юнакоў і дзяўчат з усёй краіны".

Аўтары звароту адзначаюць, што "воляй улады ў ліцэй прызначаны новы дырэктар — чалавек, непрыхільны духу гэтай элітарнай навучальнай установы, які нават не валодае беларускай мовай. У гэтай сітуацыі ліцэй вымушаны пакінуць Уладзімір Колас, Лявон Баршчэўскі, Ірына Сідарэнка, Васіль Сёмуха і Міхась Тычына".

Змену кіраўніцтва ў ліцэі аўтары звароту звязваюць з "актыўным удзелам яго выкладчыкаў у грамадска-палітычным жыцці краіны, у тым ліку — з працай У.Коласа ў аргкамітэтах па скліканні Усебеларускага сходу інтэлігенцыі і стварэнні руху "За годнае жыццё".

Управа рады беларускай інтэлігенцыі патрабуе ад улад прызначыць дырэктарам ліцэя Уладзіміра Коласа і заклікае нацыянальную інтэлігенцыю і грамадскасць краіны падтрымаць калектыў выкладчыкаў і навучэнцаў.

**Марат ГАРАВЫ, БелаПАН.**

## А.Ярашук і Г.Фядыніч паедуць у Жэневу

Прэзідэнт Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў (БКДП) Аляксандр Ярашук і старшыня рэспубліканскага савета Беларускага прафсаюза работнікаў радыёэлектроннай прамысловасці (РЭП) Генадзь Фядыніч возьмуць удзел у штогадовай 91-й канферэнцыі Міжнароднай арганізацыі працы (МАП) у Жэневе. Канферэнцыя адкрыецца 8 чэрвеня.

Як паведаміў А.Ярашук, яны не ўключаны ў склад афіцыйнай беларускай дэлегацыі, у якую ўваходзяць кіраўнікі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі (ФПБ) і прадстаўнікі некаторых міністэрстваў. Паводле яго слоў, запрашэнне на канферэнцыю лідэрам БКДП і РЭП паступіла ад Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП).

А.Ярашук упэўнены, што кіраўніку беларускай афіцыйнай дэлегацыі, старшыні ФПБ Леаніду Козіку "будуць зададзены непрыемныя пытанні аб тым, што адбываецца ў прафсаюзным руху краіны".

"Можна з упэўненасцю меркаваць, што будзе просьба выказаць і альтэрнатыўную думку, г.зн. маю і Фядыніча, — лічыць А.Ярашук. — Зразумела, што мы будзем гаварыць аб факце чарговага, грубага і бесцырымоннага ўмяшання ў справы прафсаюзаў — аб стварэнні Беларускага прафсаюза работнікаў прамысловасці".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Дзесяць долараў — таксама хабар

Супрацоўнікі міжраённага аддзела па барацьбе з эканамічнымі злачынствамі пры УУС Брэсцкага аблвыканкама падчас правядзення аператыўнага эксперыменту на тэрыторыі пункту мытнага афармлення "Брэстзнештранс" Брэсцкай мытні затрымалі начальніка аддзела гэтай мытні, які атрымаў хабар у памеры 10 долараў ЗША.

Гэтыя грошы з'яўляліся ўзнагароджаннем ад беспрацоўнага жыхара Брэста за незаконнае афармленне пасведчання "Аб допушчэнні дарожнага транспарту да перавозкі грузаў пад мытнымі штампамі і пломбамі". Такім чынам мытнік дапусціў транспартны сродак да міжнародных перавозак грузаў.

Пры затрыманні і асабістым вобыску ў начальніка аддзела было знойдзена і канфіскавана 180 долараў і 40 еўра.

29 мая пракуратура Брэсцкай вобласці ў адносінах да начальніка аддзела Брэсцкай мытні завяла крымінальную справу па ч. 1 артыкула 430 Крымінальнага кодэкса (атрыманне хабару).

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

# Правал

*Не радуюць вынікі гаспадарання ў сёлетнім годзе. Лічбы, якія прагучалі на нядаўнім пасяджэнні прэзідыума Савета міністраў, яскрава сведчаць аб глыбокім, беспрасветным крызісе эканомікі.*

Так, па выніках працы ў студзені—красавіку не выканана 6 з 16 найважнейшых паказчыкаў сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны. Здавалася б, падстаў для асаблівага суму нібыта і няма: дзесяць жа паказчыкаў, або пераважная большасць, выкананы, правалены толькі шэсць. Але якія!

Найперш упаў тэмп росту валавога ўнутранага прадукту. Як паведамляе агенцтва БелаПАН, мяркуецца павялічыць яго ў першым паўгоддзі на 5,6 працэнта ў параўнанні з такім жа перыядам папярэдняга года, а ёсць пакуль толькі 5,1 працэнта. Планавалі павялічыць вытворчасць у сельскагаспадарчым сектары на 6,5 працэнта, а атрымалі пакуль яе падзенне на паўпрацэнта. Адбыўся правал і з інвестыцыямі. Збіраюцца прыцягнуць іх сёлета на 12—13 працэнтаў болей. Змаглі ж пакуль павялічыць іх усяго на 2,9 працэнта.

Затое рост цэн пайшоў уверх. Абяцалі "адпусціць" іх павелічэнне за год на 1,4—1,8 працэнта. А яны за першыя чатыры месяцы павялічыліся на 2,5 працэнта. Рэальная зарплата за гэты час паднялася ўсяго на 2,1 працэнта пры прагназуемым узрастанні за год на 7—8 працэнтаў.

Даволі цяжкае становішча рэальнага сектара эканомікі. Доля стратных прадпрыемстваў у першым квартале гэтага года склала ўжо 47,4 працэнта. Амаль палова! А летась у такі ж час яна раўнялася 42,4 працэнта. Яшчэ горшае становішча ў аграрным сектары. Тут па стане на 1 красавіка стратнымі былі 70,4 працэнта гаспадарак.

Як ні падлічвай, спадар Навіцкі, а канцы з канцамі не сыходзяцца.

Фота IREX/ProMedia.

Як бачым, спад адбыўся на самых важных напрамках вытворчай дзейнасці, правалены найважнейшыя паказчыкі. І таму стандартнае запатрабаванне ўрада "ўжыць вычарпальныя захады" па ліквідацыі адставання ў выкананні найважнейшых параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны напамінаюць гарчычнікі на целе мерцвяка. Якія яшчэ "вычарпальныя захады", калі старая камандная эканоміка ўжо даўно вычарпала свой рэсурс.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

# Шлю я в Кремль пакет за пакетом...

*За последний год мы настолько привыкли к скандалам в белорусско-российских отношениях, что каждый период затишья уже воспринимается как знак того, что Путин и Лукашенко — снова "братья навек". Ошибочность таких предположений продемонстрировал прошедший месяц, когда никаких явных обострений в отношениях Минска и Кремля не было, а глухое молчание последнего оказалось, как мне кажется, гораздо более тягостным и разрушительным для белорусского лидера, чем грохот самой тяжелой российской артиллерии. Во всяком случае, от трех ударов, бесшумно нанесенных ближайшим союзником, он оправится еще не скоро.*

**Виталий СИЛИЦКИЙ, доктор политологии**

О первом ударе — *том факте, что российский президент ни словом не обмолвился о Беларуси в ежегодном послании Федеральному собранию* — не говорил и не писал только ленивый. Странная вещь получается: раньше не раз заявляла, что Беларусь для нее приоритет из приоритетов в СНГ. А теперь — какой уж там приоритет, даже в конце списка не значится! Я, конечно, не сильно расстроился, но трудно поверить, чтобы Россия уж совсем на Беларусь плюнула. Значит, дело в первую очередь в самом Лукашенко. Послание Путина стало этаким ритуальным действом, когда священную корову интеграции без зазрения совести пустили на бифштекс.

Второй удар — бойкот российскими олигархами приватизации белорусского нефтехима. Странно, два года подряд оппозиция только и говорила о распродаже Беларуси и, как всегда, усиленно ссорилась между собой, хорошо это или плохо. А тут — на тебе, не хорошо и не плохо, просто никак. И здесь тоже просматривается политическая подоплека. Конечно, можно сослаться на то, что белорусский президент просто решил поторговаться по-восточному, сначала заламывая запредельную цену, а потом создавая видимость распродажи. Но во всей этой приватизационной истории важна не только стоимость объектов, но и то, как, на каких условиях происходит продажа собственности. Ведь что придумали белорусские власти? *Продажа активов по частям и без гарантии, что инвестору когда-нибудь перейдет контрольный пакет акций.* А без передачи оного любые инвестиции в белорусских условиях являются благотворительностью. Иначе говоря, вот что предложило белорусское руководство российским олигархам: вы тут три годика вкладывайте денежки, а там мы посмотрим, кинуть вас или не кинуть. Почему срок продажи расписан до 2006 года — не вопрос для того, кто знаком с белорусским политическим календарем. Вот как все просто — парочка российских толстосумов берется в заложники, чтобы потом без проблем одержать еще одну элегантную победу на президентских выборах.

В любом случае такой трюк возможен, только если Кремль четко определится насчет политической поддержки нынешнего президента Беларуси в будущем. Так что провал торгов косвенно означает, что поддержки такой Лукашенко пока что не дождался. Напрямую же это означает, что даром денег больше не дадут. А время, между прочим, поджимает. Еще парочка таких "аукционов" — и клиентов уже не заманишь даже на предварительные переговоры.

Ну а третий удар был нанесен буквально на днях. Председатель российского Центризбиркома А.Вешняков развеял иллюзии насчет референдума по конституционному акту, тихонечко заявив, что в этом году его проведение невозможно. А ведь именно союзным референдумом, по общему мнению, Лукашенко и собирался прикрыться, чтобы обеспечить беспроблемное продление полномочий. Но если референдума по конституционному акту не будет в 2003 году, то в 2004-м его практически невозможно провести. И причиной тому наша собственная Конституция, которая запрещает проведение референдумов в последние шесть месяцев полномочий Палаты представителей. До марта в России президентские выборы и, следовательно, не до референдума (если только Путин не захочет включить интеграционные игры в свою кампанию, но на внутреннем фронте ему это делать необязательно, а на внешнем — очень даже нежелательно). А в апреле начинают отсчет те самые шесть месяцев.

Конечно, официальному Минску даже собственные правила — это не Библия, а Камасутра. В 1995-м году провели же референдум в день парламентских выборов, и ничего — красно-зеленый до сих пор висит! Но зачем Москве-то союзное государство, которое изначально лишено международной легитимности и попадает в категорию государств-изгоев? А после парламентских выборов? А там, как говорится, или ишак умрет, или эмир. Во всяком случае, играть в продление полномочий к тому сроку, может быть, уже и поздно — кто знает, что будет и с рейтингом, и с экономикой, и с теми же отношениями с Россией.

Так что единственный, похоже, вариант для Лукашенко — это работать без оглядки на Россию. Иными словами, заниматься только третьим сроком (разве что оперативно разогнать нынешнюю Палату, чтобы попробовать-таки сыграть на пару с Кремлем). Можно, конечно, поиграть и в национализм, но здесь белорусский лидер здорово рискует нарваться на жесткую российскую реакцию.

А какие перспективы у сепаратного референдума? Понятно, что подсчитают как следует. Только вот "дорисовывать" придется ой как много! А это значит, что выиграть референдум в головах у электората не удастся. И что тогда? Если агитаторы будут работать так же топорно, Лукашенко рискует выйти из референдума с пятнадцатипроцентным рейтингом. Кроме того, на Беларусь сразу обратят внимание те, кому пока что не до нее (имеются в виду внешние игроки). И с таким раскладом организовать югославский вариант на следующих президентских выборах не представляется совсем уж невозможным.

А может, Александру Лукашенко стоит порадоваться даже такому неприятному молчанию Кремля? Ведь кто знает, что он услышит, когда там начнут говорить. Помните, как с Саддамом: из уст Путина ждали проклятий Америке, а получили — "по политическим и экономическим соображениям Россия не желала бы поражения США". Вот сорвется с языка у российского президента, что не желал бы переизбрания своего коллеги на третий срок, и пиши пропало. Так что пусть пока молчит...

*("Белорусские новости".)*

# У Пецярбург з гарматай...

## Лукашэнка прыхваціў з сабой на святкаванне 300-годдзя Санкт-Пецярбурга пушку с зараднымі ядрамі

Аляксандр Лукашэнка, кажучы вобразна, вырашыў узяць на пушку сусветную кіруючую эліту, якая сабралася гэтымі днямі ў расійскай паўночнай сталіцы. Беларускі авіяборт №1 даставіў у Пецярбург даволі важкую мадэль старажытнай гарматы, выробленай віцебскімі майстрамі з літой бронзы з пазалотай і дуба ў духу пятроўскіх часоў. Гармата мае даўжыню ствала 700 мм, а вышыню на лафеце — 550-600 мм. Яе, як паведамляе прэс-служба прэзідэнта, дапаўняюць таксама ўсе неабходныя аксесуары, уключаючы зарадныя ядры.

А калі сур'ёзна, то зброю айчынны "пушкар" узяў з сабой у Піцер, каб падарыць яе прэзідэнту Расіі Уладзіміру Пуціну. Гармата, згодна з папярэднімі задумкамі арганізатараў двухдзённага візіту кіраўніка беларускай дзяржавы ў паўночную расійскую сталіцу, будзе "сімвалізаваць 300-гадовую гісторыю горада, што ўзнік на адваяванай у Швецыі тэрыторыі і на працягу доўгага часу з'яўляўся баявым фарпостам Расіі на Балтыцы".

Праграма візіту А.Лукашэнкі ў Санкт-Пецярбургу прадугледжвае "ўдзел у нефармальнай сустрэчы кіраўнікоў дзяржаў СНД (якая адбылася ўчора на борце велізарнага марскога лайнера. — **Аўт.**), рабочым сняданні ад імя расійскага прэзідэнта, у цырымоніі сустрэчы прэзідэнта У.Пуціна з кіраўнікамі дзяржаў, якія прыбылі на ўрачыстыя мерапрыемствы, наведванне Ісакіеўскага сабора і гала-канцэрта ў Дзяржаўным акадэмічным Марыінскім тэатры, а таксама ўдзел у афіцыйным прыёме ад імя кіраўніка расійскай дзяржавы".

Сёння, 31 мая, насычаная праграма святочных мерапрыемстваў прадугледжвае ўдзел кіраўнікоў дэлегацый у цырымоніі адкрыцця Палаца кангрэсаў у пасёлку Стрэльна пад Санкт-Пецярбургам, наведванне Кацярынінскага палаца ў Пушкіне, сняданак ад імя прэзідэнта Расійскай Федэрацыі, наведванне выставы "Заснавальнік Пецярбурга" ў Дзяржаўным музеі "Эрмітаж" і свята вады на Няве.

Шэраг мерапрыемстваў запланаваны ў рамках сустрэч кіраўнікоў краін СНД. "Прэзідэнты абмяркуюць пытанні аб выніках выбараў прэзідэнта і Нацыянальнага сходу ў Арменіі, аб развіцці сітуацыі на паўднёвых рубяжах садружнасці, аб накіраванні назіральнікаў ад СНД на выбары прэзідэнта Азербайджана, аб пратаколе да пагаднення па пытаннях, звязаных з аднаўленнем правоў дэпартаваных асоб, нацыянальных меншасцей і народаў ад 9 кастрычніка 1992 года, аб падаўжэнні мандата калектыўных сіл па падтрыманні міру ў зоне канфлікту ў Абхазіі і г.д..."

Адзін з пунктаў павесткі дня саміта звязаны з нашай краінай — будуць разгледжаны праблемы, якія тычацца адзінай эканамічнай прасторы на тэрыторыі Расіі, Беларусі, Казахстана і Украіны. Гэтая праблема абмяркоўваецца даўно, але воз, як кажуць, "и ныне там". Назарбаеў, праўда, спрабаваў зрабіць нядаўна нясмелую прапанову наконт адзінай валюты СНД пад дзіўнай назвай "алтын". Але расіяне хутчэй, на мой погляд, запросяць у Крэмль для кіравання краінай мангола-татарскае іга, чым памяняюць свой рубель на нейкі незразумелы алтын. Гэта ж відавочна!

Складваецца ўражанне, што лідэры СНД збіраюцца на саміты, якія адбываюцца па некалькі раз на год, каб кульнуць кілішак-другі за "стварэнне чарговай адзінай прасторы", ды і добра пахарчавацца на чарговым "рабочым сняданку". А тое, што ў гэтай чарговай СНД-эшнай "тусоўцы" ляцяць у трубу мільёны рублёў падаткаплацельшчыкаў, гэта ўжо дробязі...

**Алесь СІЛІЧ.**

ДАЙДЖЕСТ

## Шредер назвал преждевременным членство России в ЕС и НАТО

Федеральный канцлер Германии Герхард Шредер считает, что между Берлином и Москвой никогда не было лучших, чем сейчас, отношений, но не видит возможности для вступления в ближайшем будущем России в Евросоюз и НАТО. Шредер, прибывший в Россию с визитом, также отметил, что единственным нерешенным вопросом двусторонних отношений является судьба хранящихся в России германских культурных ценностей.

Отношения между Германией и Россией являются тесными, дружественными и столь насыщенными по содержанию, как, пожалуй, еще никогда за всю нашу историю", — сказал канцлер.

На вопрос, считает ли он возможной в ближайшем будущем полную интеграцию России в европейские и евроатлантические структуры, включая ЕС и НАТО, Шредер сказал: "Мы, в Германии и России, придерживаемся единого мнения о том, что в настоящее время такой вопрос не стоит". По словам канцлера, "исторические, экономические, общественные и культурные условия в государствах Западной, Центральной Европы и России, которая к тому же является не только европейской, но и крупнейшей страной Азии, еще слишком различны".

## Иракские партизаны изменили планы вывода войск коалиции

Командующий сухопутными войсками коалиции в Ираке генерал-летейнант Дэвид Маккирнан заявил, что собирается направить дополнительные войска в те районы страны, где солдаты часто подвергаются нападениям. Однако солдаты и офицеры тех подразделений, которые могут быть направлены в "горячие точки", считают, что их техника не находится в состоянии боеготовности и их жизни подвергнут бессмысленному риску. Речь идет о 3-й пехотной дивизии, которая участвовала в боях с иракской армией. Ее собирались направить к месту постоянной дислокации на территории США, однако приказ изменили, и теперь пехотинцы остаются в Ираке. Всего в стране находятся около 140 тысяч солдат коалиции.

В настоящее время дивизия находится в Багдаде, поддерживая порядок в городе и охраняя важнейшие объекты. Предполагалось, что ее сменит 1-я бронетанковая дивизия, части которой обладают самым большим опытом проведения миротворческих операций по всему миру, — в Кувейте, Боснии и Косово. Американцы постоянно подвергаются нападениям, их обстреливают из автоматов и гранатометов, они подрываются на минах. Возможно, пехотинцев направят в Фаллуджу, где недавно во время перестрелки с иракцами погибли двое американских солдат и девять получили ранения.

## 5000 антиглобалистов под проливным дождем прошли по Лозанне

Первая демонстрации антиглобалистов, протестующих против саммита "Большой восьмерки", который состоится во французском Эвиане 1—3 июня, прошла в Лозанне. 5000 демонстрантов под проливным дождем прошли через охраняемый полицейскими город, неся в руках транспаранты с лозунгами "Нет — колониалистам "Большой восьмерки"!" и подобными. В Лозанне должны расположиться приехавшие на саммит представители развивающихся стран.

Несмотря на мирный характер шествия, столкновений с полицией все же не удалось избежать. Около 100 демонстрантов в черных масках забросали полицейских камнями и консервными банками, в ответ на что представители охраны правопорядка применили слезоточивый газ. О жертвах и пострадавших ничего не сообщается.

Демонстрация прошла под контролем наблюдателей из международной организации Amnesty International. Кроме того, примерно 100 демонстрантов несли с собой рации и мегафоны. В их задачи входило прослушивание полицейских радиочастот и предупреждение участников марша о возможных опасностях.

Помня о серьезных столкновениях антиглобалистов с полицейскими во время прошлого саммита, многие владельцы магазинов, заправочных станций, руководство некоторых банков приняли дополнительные меры безопасности.

ОВАЛЬНЫЙ ЗАЛ

## Правительство информацией не владеет...

*"Овальный зал" не остался равнодушным к отсутствию в киосках "Белсоюзпечати" "Белорусской деловой газеты". И заместителю премьер-министра Андрею Кобякову, и заместителю министра юстиции Виталию Калугину на плановом отчете в Овальном зале пришлось отвечать на неплановые вопросы парламентариев.*

Иван ПАШКЕВИЧ, обращаясь к вице-премьеру, решение Министерства информации о приостановке "БДГ" назвал провокацией против Республики Беларусь. Поясняя это, депутат добавил, что газету придушили в то время, когда в Европе приступили к решению вопроса о признании Национального собрания. Причем сделали это сразу же после убытия из страны делегации Парламентской ассамблеи Совета Европы во главе с Утой ЦАПФ, сторонницей признания белорусского парламента. До каких пор в правительстве будут принимать непродуманные решения?

Андрей Владимирович сказал, что "фактуры по данному вопросу у него нет".

Аналогично ответил и замминистра юстиции на вопрос Ольги АБРАМОВОЙ. Виталий Юрьевич сказал: "Я не имею на руках документы и не владею ситуацией". А ведь Ольга Михайловна обратила внимание представителя Минюста на то, что вина газеты судом не установлена.

Увы, тех, кто владеет ситуацией и мог бы ответить на вопросы парламентариев, в Овальном зале не было. Не прибыли ни министр информации, ни его заместители.

**Валерий ЩУКИН.**

ПОЗИЦИЯ

## Я лично Ермошиной не верю

Уважаемая редакция!

Прочитал статью Г.Шоломицкого "Европа и Америка хотят видеть Беларусь демократической. Пусть дают деньги". С написанным я полностью согласен, но хочу сделать несколько дополнений.

Никаких досрочных голосований не должно быть. Только в виде исключения для тех, кто уезжает за границу. И второе — необходимо освободить Л.Ермошину от должности председателя Центризбиркома и назначить на этот пост человека, не зависящего ни от кого. При Ермошиной во время голосований было очень много нарушений, а виноватых никто не пытался найти. Усилить нужно ответственность за подтасовки на всех уровнях. Я лично Ермошиной не верю.

**И.ИВАНЧИК, житель г.Слонима.**

СПОРТ

## А.Байдачны — на «Дынама»

Вядомы футбольны спецыяліст Анатоль Байдачны прызначаны новым галоўным трэнерам мінскага "Дынама". Ён змяніў на гэтай пасадзе Георгія Гюрава, які не апраўдаў спадзяванняў кіраўніцтва клуба. Пасля шасці матчаў дынамаўцы займаюць 9-е месца ў турнірнай табліцы нацыянальнага чэмпіянату, атрымаўшы дзве перамогі, адзін раз згуляўшы ўнічыю і пацярпеўшы тры паражэнні, у тым ліку ў апошніх двух турах — ад "Гомеля" (0:2) 20 мая і ад мінскага "Тарпеда-СКА" (0:2) 28 мая. Паміж гэтымі няўдачамі была перамога сталічнай каманды ў розыгрышы Кубка Беларусі, аднак гэта не паўплывала на рашэнне змяніць галоўнага трэнера.

А.Байдачнаму 50 гадоў. Працаваў у Расіі, ва Украіне, на Кіпры, у Малдове, Кувейце. У 1997 годзе прывёў мінскае "Дынама" да перамогі ў чэмпіянаце Беларусі.

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**



Сонейка. 30 мая 2003 г., Мінск.

**Фота IREX/ProMedia.**

# Административный раж

## Минский горсовет разделил белорусов на касты

Депутаты советов разных уровней, безусловно, не являются администраторами. Но иногда решения, которые они принимают на своих сессиях, можно назвать образцами самого грубого и незаконного администрирования.

Например, "законодательное собрание" той или иной области может запретить реализацию на подведомственной территории кефира, масла, сметаны, пива (список достаточно произвольный), произведенных в соседней области. Так сказать, конкурентами своего (областного) производителя. О том, что такой местечковый патриотизм разрушает единое экономическое пространство страны, охраняемое в том числе и с помощью Вооруженных сил, пограничных войск и тьмы иных силовых ведомств, включая агентов, внедренных за рубежом, подрывает основы честной конкуренции, экономику в целом, как правило, даже не задумываются. А что тут думать, если власть в руках и хочется поднять собственные показатели.

Но уездный сепаратизм присущ не только провинции. Столица в этом смысле имеет более богатые традиции. В определенной мере ее давно, с советских времен, можно считать государством в государстве, живущим по отличным от остальной страны законам. Оно — это государство, получало и получает все лучшее и в первую очередь жило и во многом продолжает жить за счет других граждан и территорий. Какую сферу ни возьми — от зарплаты до комфортности среды обитания — все в Минске на порядок выше, чем в любом областном центре, не говоря уж о маленьких городах, не вспоминая о деревне. Промышленность, строительство, транспортная сеть, торговля — все здесь развито лучше. Отсюда резкое различие в оплате труда, более низкий, чем по стране, уровень безработицы. Если взять только официальные показатели, то в Минске он не превышает 2 процентов от экономически активного населения, а в областях колеблется от 3 до почти 5 процентов.

За последний год проблема безработицы в целом по стране обострилась. Но опять же в Минске (на начало апреля текущего года) по сравнению с аналогичным периодом прошлого года численность безработных клиентов биржи труда увеличилась на 18, а в Брестской области — на 54 (!) процента. По сути, многие населенные пункты (не только в Брестской области) уже превратились в своеобразные резервации, обитатели которых очень мало связаны с остальной страной, с государством. Работу, по крайней мере хорошо оплачиваемую, там найти невозможно. Поэтому молодежь деградирующих поселений стремится в города, прежде всего в Минск. Здесь с начала 90-х годов существовал порядок, согласно которому любой наниматель (частник и государственный) мог принимать на работу любого сотрудника, который имеет возможность каждый день приезжать на работу и возвращаться к постоянному месту жительства.

Эта "либеральная поправка" действующей системы трудоустройства, основу которой составляет институт прописки, на самом деле бессмысленна: не станет же руководитель предприятия принимать на работу человека, который не может приезжать на работу. Тем не менее многие жители поселений, расположенных у железных и шоссейных дорог на разном удалении от Минска, получили возможность трудоустроиться, а предприятия смогли заполнить те вакансии, которые в силу разных причин (вредные условия труда, низкие зарплаты и т. д.) не привлекали даже безработных минчан. Хотя наниматель за прием на работу неминчанина должен был платить в казну 500 "минималок" (сейчас — "базовых величин"), эта новая практика поставила под сомнение прежнюю возможность столичных властей подвергать фактической дискриминации при трудоустройстве граждан Беларуси, не имеющих столичной прописки. Приезжай хоть из Осипович, хоть из Баранович и ничего не бойся: никакой контролер не накажет, работы не лишит, на "101-й километр", как прежде, не выселят. Все-таки гражданин РБ, а не нелегальный мигрант.

Гражданин — значит, имею право. В своей стране трудиться там, где захочу, делать то, что умею. Но нет. Новоизбранный Мингорсовет на своей второй сессии 6 марта утвердил Инструкцию о порядке приглашения организациями и индивидуальными предпринимателями иногородних граждан для работы и жительства в г. Минске, которая запрещает принимать на работу на условиях "ежедневного возвращения" всех, кто не прописан в Минской области. Подчеркнем, что не бывает граждан Минска, Орши или колхоза "Светлый путь". Есть граждане государства Республика Беларусь. Где бы они ни жили, как бы они ни ездили на работу — у всех у них одинаковые, гарантированные Конституцией права.

Инструкцией вопрос трудовых отношений не урегулируешь. Поскольку они, эти отношения, приобретают все более неформальный характер. У многих ради стажа на фирме "работает" трудовая книжка, пока ее владелец зашибает деньгу где-нибудь в дальнем или ближнем зарубежье, многие предприниматели оформляют отношения с работниками в устной форме, зарплату выплачивают не через бухгалтерию. Вообще, на каждых троих, легально занятых в экономике, приходится один "нелегал", усердствующий в теневом секторе. И число тех, кто отчаялся получить приличную работу с помощью государства, постоянно растет. Дело в том, что люди хотят жить, что нельзя запретить даже самой бредовой инструкцией, декретом или указом.

А вообще снобизм столичных властей надо окорачивать. Может быть, даже приняв инструкции, обязывающие граждан г.Минска уплачивать в казну нестоличных областей особые сборы при посещении ими своих провинциальных родственников, при проезде по областным дорогам и пользовании воздушными коридорами.

Скажете, абсурд? Но сколько же можно делить белорусов на людей первого и второго сорта...

**Константин СКУРАТОВИЧ.**

Посадка в пригородную электричку.

**Фото IREX/ProMedia.**

ПУЛЬС

## На дарогах увялі абмежаванні для грузавікоў

З 1 чэрвеня і да канца лета на аўтамабільных дарогах Беларусі будуць дзейнічаць часовыя абмежаванні для праезду цяжкавагавага аўтатранспарту.

У гэты перыяд у дзённы час сутак (з 10 да 22 гадзін) пры тэмпературы паветра вышэй за 25 градусаў абмяжоўваецца рух транспартных сродкаў з нагрузкай на адзіночную вось больш за 6 тон па аўтамабільных дарогах з асфальтабетонным пакрыццём. Рух такога аўтатранспарту будзе дазволены з 22 да 10 гадзін. Часовыя абмежаванні не закрануць аўтамабілі, якія ажыццяўляюць перавозкі скорапсавальных грузаў, і перавозкі, звязаныя з прадухіленнем або ліквідацыяй надзвычайных сітуацый.

На аўтатрасах установяць часовыя дарожныя знакі з указаннем рэкамендуемых аб'язных шляхоў. Акрамя таго, для транспартных сродкаў, што падпадаюць пад абмежаванні, будуць вызначаны пляцоўкі і месцы адстою, а за перамяшчэннем цяжкавагаў будзе арганізаваны пастаянны кантроль. Вінаватыя ў пашкоджанні дарог, выкліканым рухам з парушэннем абмежаванняў, будуць прыцягвацца да адказнасці.

У Беларускай асацыяцыі міжнародных аўтамабільных аўтаперавозчыкаў (БАМАП) лічаць, што абмежаванні не павінны закранаць праезд па двух міжнародных транспартных калідорах і іх адгалінаваннях, якія праходзяць па тэрыторыі Беларусі. Акрамя таго, як адзначыў генеральны сакратар асацыяцыі Аляксандр Солашчаў, некаторыя абмежаванні не дазваляюць перавозчыкам пад'ехаць да месцаў пагрузкі і разгрузкі. У той жа час сістэма часовых складоў адсутнічае. Таму неабходны кампрамісныя рашэнні, паколькі гэта ўплывае і на экспарт беларускіх прадпрыемстваў, лічаць у кіраўніцтве БАМАП.

**Аляксей АРЭШКА.**

## Аўтобус з пасажырамі ледзь не ўпаў у кювет

8 чалавек пацярпелі ў выніку аварыі гарадскога аўтобуса, што адбылася ў Бабруйску. Паводле меркавання супрацоўнікаў ДАІ, вадзіцелю ўдалося пазбегнуць больш цяжкіх наступстваў.

Грамадскі гарадскі аўтобус ЛіАЗ (1990 года выпуску) ударыўся ў дрэва з-за тэхнічных няспраўнасцей. Паводле слоў вадзіцеля, на спуску з маста цераз раку Бярэзіна ў машыне, у якой знаходзілася каля 60 пасажыраў, заглушыўся матор і заклініла рулявое кіраванне.

Калі б аўтобус не ўдарыўся ў дрэва, яго магло б знесці ў кювет.

**Канстанцін УВАРАЎ.**

## На пагранічніка напалі ў кватэры

У Дзень пагранічніка, 28 мая, на 29-гадовага супрацоўніка Пінскага пагранатрада быў ажыццёўлены ўзброены напад.

Паводле слоў пацярпелага, апоўначы да яго ў кватэру пазваніў знаёмы жыхар Ровенскай вобласці Украіны. Пагранічнік адкрыў дзверы і ўпусціў позняга госця, які раптам пачаў пагражаць забойствам. Свае дзеянні ён тлумачыў праблемамі, з якімі даводзіцца сутыкацца пры перасячэнні беларуска-ўкраінскай мяжы. Затым госць нанёс гаспадару два ўдары — нажом у плячо і шкляной вазай па галаве.

Як паведамілі БелаПАН ва УУС Брэсцкага аблвыканкама, падазроны аб'яўлены ў вышук.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ.**

З ПОШТЫ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

## Ёсць, была і будзе!

Паважаная рэдакцыя "Народнай волі"!

Даўно і ўважліва чытаю вашу газету, знаёмлю з найбольш цікавым сяброў і суседзяў. Разам абмяркоўваем, спрачаемся. Апошнім часам нашу ўвагу ўсё больш прыцягваюць думкі-развагі аб Беларускай ідэі, яе лёсавызначальнасці для будучыні нашай Бацькаўшчыны.

Сапраўды — гэта важней важнага, можна сказаць, духоўны клопат №1. Але, колькі б ні ўчытвалася ў газетныя старонкі, яснай фармулёўкі Нацыянальнай ідэі так і не знайшла. Між тым гэта вельмі патрэбна, як паветра, не толькі мне.

Разумею, выказаць глыбока, ёміста і афарыстычна такую складаную рэч зусім не лёгка. А можа яе душа і сэнс — у простых і вялікіх словах нашага прарока Янкі Купалы "Беларусь ёсць, была і будзе!". Хіба не ідэя, якая здольна згуртаваць усіх, каму дарагія Бацькаўшчына, родная зямля, дзеці і ўнукі?

І яшчэ. Часта чую, што, маўляў, мы жывём кепска, і кіраўнікі нашы далёка не з лепшых, але... замяніць іх ну проста няма кім... Вось гэта відавочная лухта! У нас шмат надзвычай разумных, здольных, багатых талентамі, адданых Айчыне сыноў і дачок Беларусі, якія верна служаць ёй і маглі б зрабіць непараўнальна больш для ўсяго нашага народа, калі б стаялі ля дзяржаўнага стырна. Вось і трэба нам іх да яго паставіць. Праз дэмакратычныя выбары, само сабою.

Да гэтай пары я страшэнна шкадую, што на першых прэзідэнцкіх выбарах мы не абралі на вышэйшы дзяржаўны пост Зянона Станіслававіча Пазьняка. Ён, лічу, быў і застаецца найбольш паслядоўным, непахісным, мудрым і мужным змагаром за волю і долю любай Беларусі, выдатнай асобай нашага часу, вялікім празорцам і мысляром, сэрца якога поўнае трывогі і болю за Радзіму. Вось хто — жывое ўвасабленне Нацыянальнай ідэі!

Няўжо, калі — магчыма — нам давядзецца зноў выбіраць, мы, так нічога і не зразумеўшы, наступім на тыя ж самыя граблі? Гэтага ніколі не даруюць нам нашыя ж нашчадкі: мы не маем ніякага права перакрэсліваць іх будучыню сваім глупствам. Мы з вамі будзем жыць па-людску толькі тады, калі будзе квітнець і жыць у гонары і славе наша Беларусь!

**Алеся РОЗУМ.**

*Гродна.*

## Прэмія імя Барыса Кіта ўручана Вользе Іпатавай

*29 мая вядомай пісьменніцы і грамадскай дзеячцы Вользе Іпатавай уручана штогадовая прэмія імя Барыса Кіта.*

Выступаючы на ўрачыстай цырымоніі, якая адбылася ў Мінску ў Абласной бібліятэцы імя Аляксандра Пушкіна, прафесар Берлінскага свабоднага універсітэта (Германія), старшыня "Рабочай групы беларуска-нямецкіх сустрэч" Ёханэс Шлоотц адзначыў, што Вольга Іпатава — не толькі вядомы беларускі празаік і паэт, але і мужная жанчына. "Яна прынесла гэтую мужнасць у літаратуру, прынесла ў духоўнае жыццё Беларусі такое знакавае паняцце, як свабода. Мы цэнім Вольгу Іпатаву, захапляемся ёю ў Германіі і спадзяёмся зрабіць вядомымі яе творы ў нашай краіне. Мы мяркуем, што гэтая прэмія ўмацуе беларуска-нямецкае супрацоўніцтва ў галіне літаратуры", — заявіў Ё.Шлоотц.

У слове ў адказ В.Іпатава сказала, што "прэмія адкрывае перад намі новым даляглядам ва ўсім свеце. Бо імя 93-гадовага Барыса Кіта, які з'яўляецца ўзорам адкрытага ўсяму свету сучаснага беларуса, натхняе айчынных літаратараў.

**Марат ГАРАВЫ.**

# Стас Чигирь

## не понимает, почему его разлучили с папой...

Трехлетний Стас не видел папу уже два года. Папа не алкоголик и не алиментщик, у него фамилия — Чигирь. Мальчик не понимает, почему из-за такой фамилии папу посадили в тюрьму и разлучили с ним на долгие годы.

Взрослые умные дяди и тети, конечно, понимают, из-за чего преследуется в стране семья Чигирей — ее глава, Михаил Николаевич, отсидевший девять месяцев в тюрьме, его жена Юлия, прошедшая через судебные испытания и получившая условный срок, его сын Александр, сидящий в камере уже двадцать три месяца. Дело в том, что Михаил Чигирь когда-то работал с Лукашенко и занимал немаленькую должность — премьер-министра. Но в 1996 году, накануне, как он считал и считает, антиконституционного референдума, ушел со своего поста в знак несогласия с политикой президента и стал открыто критиковать бывшего патрона, став одним из видных оппозиционеров в Беларуси.

В 1999 году выставил свою кандидатуру на альтернативных президентских выборах, устроенных оппозицией. Остался жив, но его соратники — Карпенко, Захаренко и Гончар — ушли в другой мир, поплатились за свою деятельность. Два года спустя опять не побоялся включиться в президентскую гонку, уже по сценарию властей. Снова остался жив. Но под удар попал младший сын Александр, имевший несчастье заниматься бизнесом, да еще — куплей-продажей автомобильных запчастей.

Больше года шло предварительное следствие по делу Александра, в ходе которого собиралось все, что можно навесить на парня, чтобы дать срок. Проводили обыск без присутствия обвиняемого. Поднимали в три часа ночи и везли в ангар какой-то военной части для опознания вещественных доказательств — якобы изъятых у него в гараже ворованных запчастей...

Александр получил семь лет и поехал отбывать срок в тюрьму.

Но на этом история не кончается. Власть решила поизмываться над семьей Чигирей снова. Над сыном Александром начался новый суд. Редкий случай в юридической практике. Но что только не делается в наше время для сохранения власти в стране, где через три года опять президентские выборы, и Михаил Чигирь — один из реальных кандидатов на этот пост. Он устраивает и номенклатуру, поскольку свой, и оппозицию, поскольку заплатил сполна за свои демократические принципы. В Москве также не новичок, вхож во многие кабинеты. Мастера заплечных дел в Минске понимают это и пытаются не допустить активных действий Чигиря. Его ставят перед нелегким выбором — либо двигаться вперед, жертвуя сыном, либо идти на попятную, облегчив страдания Александра.

Люди склонны многое забывать. Электорат не помнит коррупционных судов над Чигирем, он вновь предстал как один из приемлемых кандидатов. Спокойный, уравновешенный, некорыстолюбивый, без маниакальных замашек. Будь завтра выборы — он мог бы быть востребован избирателями. Вот почему его сына Александра вновь доставили в суд, перевели из тюрьмы в следственный изолятор, где невозможны нормальные свидания с женой, и судят. Как я понимаю, судят не для того, чтобы оправдать, а для того, чтобы сторговаться с отцом, не дать Чигирю-старшему и дальше бороться за человеческое достоинство.

Взрослые умные дяди и тети понимают, почему фамилия Чигирь не дает покоя власти. Но самый маленький Чигирь, трехлетний Стас, далекий от гнусной политики вокруг его дедушки, никак не может понять, почему его разлучили с папой...

**Лариса РУСИЧ.**

**На снимке:** *не думал маленький Стас, что его надолго разлучат с отцом.*

ТРЫВОГА

# Людзі, будзьце людзьмі!

## Жорсткасць да «братоў нашых меншых» скіроўваецца супраць нас саміх

Былі канікулы. У двары гулялі дзеці. Улюбёнец малечы сабачка па мянушчы Чачэн, якога бабуля Алена Трафімаўна Голубева выпусціла пагуляць, мірна сядзеў ля пад'езда.

Раптам у двор укацілася міліцэйская машына, з яе выйшлі ўчастковы і яшчэ трое мужчын. Яны дасталі ружжо і прыцэліліся ў сабаку. Дзеці закрычалі, заплакалі, сталі прасіць не чапаць свайго чацверанагага сябра. Але... Што адбылося далей, распавялі самі дзеці — сведкі жудаснай расправы ў сваіх лістах. Вось радкі з тых лістоў.

**Дзяніс БАНДАРЭНКА:** "Было вельмі страшна. Адзін за адным прагучалі два стрэлы. На асфальце засталіся лужыны крыві".

**Алена КАРОТКІНА:** "Я бачыла, як забівалі Чачэна. Майму браціку Іллі ўсяго гадок, ён моцна перапалохаўся і аж заходзіўся ў плачы разам са мной. Але дарослыя дзядзькі не пашкадавалі і не паслухалі нас".

**Давід ПЕТРАСЯН:** "Мне вельмі шкада, што расстралялі нашага сябра. Сабачка быў вельмі харошы, ласкавы. Я не ведаў дагэтуль, што ў нас ёсць такія бессардэчныя людзі".

**Вольга Уладзіміраўна ГЕРАСІМОВІЧ:** "Не магу перадаць стан маёй маленькай дачушкі, якая прыбегла дадому ў жаху і слязах і некалькі дзён пасля гэтага не выходзіла гуляць на вуліцу".

Бессэнсоўны адстрэл, ахвярай якога сталі не толькі дваровы сабачка, а і вельмі ранімая дзіцячая псіхіка, адбыўся ў вёсцы Броўкі пад Мінскам у мінулым сакавіку. На жаль, падобных фактаў можна прыводзіць вялікае мноства.

Якую ж мэту ставяць перад сабой арганізатары падобных акцый? І чаго дасягнулі, як у прыведзеным вышэй выпадку, расстрэльшчыкі? Ці ўсведамлялі яны, што наносяць маральную траўму дзецям і дарослым?

Наўрад ці. Хутчэй за ўсё, яны былі бяздумнымі выканаўцамі загадаў мясцовых улад, накіраваных на барацьбу з бяздомнымі жывёлінамі. Спрачацца не варта: абарона насельніцтва ад магчымых выпадкаў укусаў такіх жывёлін, ад розных захворванняў пры кантакце з імі — мэта гуманная. Але метады, якімі яна часам ажыццяўляецца, інакш не назавеш, як варварскія, антыгуманныя. Таму што яны недастаткова прадуманы і пралічаны. Менавіта з-за гэтага ў "сетку" змагароў за ачыстку населеных пунктаў ад бяздомных небаракаў даволі часта трапляюць якраз хатнія, ручныя сабакі і кошкі, бо яны найбольш спакойныя, даверлівыя да людзей. А што ў выніку, мы ўжо бачылі.

Не лепшая карціна, чым апісаная вышэй, і ў беларускай сталіцы. Кожны дзень дзевяць машын "Спецкоммунавтотранса" курсіруюць па ўсіх раёнах Мінска. І вынікі іх пільнай "вахты" далёка не заўсёды ўхвальныя.

Вось што распавяла педагог Н.Рубанава: "Я 30 год працую з дзецьмі, вучу іх дабрыні, любові да прыроды і ўсяго жывога. Разам з імі мы падкормлівалі ў двары кімсьці кінутага сабаку, шукалі яму гаспадара. Але прыехалі сабакаловы і на вачах у дзяцей, не звяртаючы ўвагі на іх мольбы, кінулі нашага падапечнага ў сваю страшную машыну. Майго ж двухмесячнага шчанюка, які паперадзе мяне выскачыў з пад'езда, дзяжурныя міліцыянеры застрэлілі без усялякай прычыны. Праўда, патлумачылі, што ёсць такая пастанова — знішчаць чацвераногіх усіх падрад, калі ў тую хвіліну побач няма гаспадара.

Сапраўды, такая пастанова ёсць. Адпаведна п.16 рашэння Мінскага гарадскога Савета яшчэ ад 24.10.2001 года ўсе жывёлы без гаспадара (у тым ліку з ашыйнікамі, жэтонамі і нават у намордніках) падлягаюць адлову і знішчэнню ў той жа дзень. Але наколькі яно ўзважана, гэтае рашэнне, чаго ў ім больш — плюсаў ці мінусаў? І як, скажыце, аберагчы душы нашых дзяцей ад патоку жорсткасці што робіцца ў іх на вачах і зыходзіць парою ад дарослых, якія павінны быць для іх прыкладам і аўтарытэтам? Пасля адной з жудасных сцэн, паведамляе інвалід II групы, блакадніца Ленінграда Л.Чайкоўская, у яе адбылося рэзкае абвастрэнне хваробы. "Лічу, зусім не жывёлы вінаватыя ў тым, што яны аказваюцца выкінутымі, а іх чэрствыя гаспадары. Вось наконт іх і добра было б прыняць — і, галоўнае, выконваць — разумныя законы".

Хацелася б нагадаць аўтару ліста Л.Чайкоўскай, што законы аб абароне жывёльнага свету ў нас існуюць, але працуюць слаба. Вось і абураюцца жыхары Партызанскага раёна сталіцы (пад лістом 150 подпісаў): "Да якой жа пары будзе працягвацца гэтае форменнае жывадзёрства? Праблему бяздомных "братоў нашых меншых" не вырашыць іх фізічным знішчэннем. Ды і маральны ўрон, які пры гэтым наносіцца людзям, невымерны. Ва ўсіх цывілізаваных краінах ужо даўно пабудаваны прытулкі для такіх жывёл, а ў нас?".

А ў нас да гэтага яшчэ не дайшло, хаця частка падаткаў на дамашніх жывёл, што бярэцца з іх гаспадароў, можна было б выкарыстаць больш мэтанакіравана — якраз дзеля гуманных мэтаў.

Пакуль жа, абураецца пенсіянерка М.Шумілава, "у нас з экрана тэлевізара гавораць, быццам спецслужба адлову ўсыпляе жывёлін гуманна. Я ж бачыла ўсё сваімі вачыма, калі выхоплівала з той страшнай машыны свайго сабаку. І да гэтай пары не магу ніяк ачомацца".

Усе гэтыя пісьмы і многія іншыя, што прыходзяць у нашае грамадскае аб'яднанне, былі накіраваны ў Мінскі гарадскі Савет і Мінгарвыканкам, але рэакцыі — ніякай. Усё застаецца па-ранейшаму. Вынішчэнне жывёл адбываецца жорсткім спосабам.

А потым многія яшчэ здзіўляюцца: адкуль сярод нашых падлеткаў, ды і дарослых, столькі жорсткасці? Яны ж сустракаюцца з ёю ледзь не на кожным кроку і міжволі адчуваюць уздзеянне на сваю свядомасць, тым больш, калі жорсткасць выступае ў "дзяржаўным абліччы". Здзіўляцца, хутчэй, варта таму, што многія нашы дзеткі дабрэйшыя і мудрэйшыя за дарослых. Іх далікатныя душы не прымаюць зла, поўняцца спачуваннем да слабых і безабаронных. Дай Божа ім не растраціць гэтыя якасці ў далейшым. Але якімі яны ўсё ж вырастуць і ці стануць людзьмі ў пэўным сэнсе гэтага слова, ад нас з вамі залежыць, паважаныя дарослыя!

Дык давайце ж будзем самі перш за ўсё людзьмі, у руках якіх будучыня.

**Людміла АТРАШКЕВІЧ,**
**старшыня грамадскага аб'яднання абароны жывёл "Ратаванне".**

## Віцебскія кумпячкі супраць «ножак Буша»

*Вялікіх выдаткаў — каля 4,5 мільёна долараў — запатрабуе ўдасканальванне тэхналагічнага працэсу на Віцебскай бройлернай птушкафабрыцы. Але без гэтых асігнаванняў прадпрыемства не зможа дабіцца канкурэнтаздольнасці сваёй прадукцыі на расійскім рынку, для якога прызначаецца амаль палова таго, што выпускае фабрыка, і дзе дасюль звыклым для пакупнікоў таварам застаюцца вядомыя "ножкі Буша" — амерыканскія курыныя кумпячкі, продаж якіх то забараняецца, то зноў працягваецца.*

У Віцебску цвёрда ўпэўнены, што тутэйшая прадукцыя пераўзыходзіць амерыканскую ва ўсіх адносінах. Вырабы беларускай фабрыкі — ад птушыных тушак да каўбас, вэнджаных прадуктаў і паўфабрыкатаў — адрозніваюцца ад заакіянскіх кумпячкоў тым, што ў аснове тэхналогіі ляжыць толькі натуральная сыравіна, а кураціна ды іншыя вырабы пастаўляюцца спажыўцам у незамарожаным выглядзе і засвойваюцца на 98%.

І ўсё ж, нягледзячы на пастаяннае паляпшэнне вытворчых паказчыкаў (прываг, выдаткаў корму і г.д.), перад птушкаводамі востра стаіць пытанне зніжэння сабекошту прадукцыі і памяншэння яе адпускной цаны, бо ў Расіі курынае мяса стала дзешавей, чым у Беларусі. У выніку продаж віцебскіх бройлераў на расійскім рынку не прыносіць столькі прыбытку, колькі патрэбна для пакрыцця ўсіх выдаткаў на закупку кармоў і асабліва на разлікі за энергарэсурсы.

У намечаную на фабрыцы праграму зніжэння сабекошту прадукцыі ўваходзіць не толькі будаўніцтва новага, аснашчанага самым сучасным абсталяваннем убойнага цэха, але і абнаўленне пароды курэй. Замест расійскага кросу "Смена" тут завялі галандскую пароду "Ковв", якая адрозніваецца, гаворачы мовай спецыялістаў, больш высокім энергетычным патэнцыялам, гэта значыць паскораным ростам, пры тых жа або нават меншых, чым у "Смены", выдатках кармоў.

Выкарыстанне галандскай пароды бройлераў, спадзяюцца на прадпрыемстве, дазволіць павялічыць сутачныя прывагі птушанят з 45 да 60 грамаў і павысіць рэнтабельнасць вытворчасці і дыетычнага мяса з 15 да 35 працэнтаў.

**Сяргей БУТКЕВІЧ.**

